© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.)

№ 31(191)

3 жніўня 1994 г.

Кошт -- 150 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



**НАША КРАІНА АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ.** У час урачыстага пасяджэння выступіў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Даклад быў зроблены на беларускай мове, у якім яшчэ раз была пацверджана пазіцыя прэзідэнта і яго каманды будаваць незалежную дзяржаву Беларусь. Прэзідэнт прыняў удзел ва ўскладанні кветак да абеліска Перамогі. На жаль, Аляксандр Рыгоравіч у гэты дзень не прысутнічаў на пляцы Незалежнасці ў час святочнага мітынгу, разам з людзьмі не быў у Курапатах, не быў побач з Васілём Быкавым ля помніка Янку Купалу. Трэба спадзявацца, што гэта будзе яго наступны крок.

***НА ТРЭЦІ ДЗЕНЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ПРЭЗІДЭНТ НАШАЙ КРАІНЫ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА** прысягнуў на вернасць беларускаму народу і заступіў на пасаду, дзяржаўны герб Беларусі «Пагоня» заняў сваё месца на фасадзе Дома ўрада ў Менску. Наш парламент яшчэ тры гады назад прыняў за сімвал Рэспублікі Беларусь герб «Пагоня», скульптары выканалі рабочую мадэль герба ў гліне ў траўні 1993 года, а пачапілі толькі цяпер. Чакалі, хто будзе прэзідэнтам?*

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПАВІНШАВАЎ** грамадзян нашай краіны з Днём незалежнасці і адзначыў, што «наша мэта — дэмакратычная, прававая і гарманічна ўпарадкаваная еўрапейская дзяржава». З выбраннем прэзідэнта нашы высокапастаўленыя чыноўнікі часцей сталі карыстацца ў адносінах да Беларусі тэрмінамі «краіна» і «дзяржава».

*РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ ПРЫЗНАЛІ 123 ДЗЯРЖАВЫ, А 97 УСТАНАВІЛІ ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ. НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ МЫ МАЕМ 32 ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ ПУНКТЫ.*

**У АДНЫМ З НУМАРОЎ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»** было змешчана інтэрв'ю з членам каманды прэзідэнта Беларусі Аляксандрам Фядутам, дзе ён на пытанне карэспандэнта: «Хто-небудзь з каманды Лукашэнкі гаворыць на беларускай мове?» адказаў: «Усе мы размаўляем на беларускай мове, але, на жаль, патроху-паціху-пакрыху. Калі, напрыклад, праз два месяцы вы зноў прыйдзеце да мяне за інтэрв'ю, я дам вам яго на беларускай мове». Хочацца верыць, што свае слова спадар Фядута стрымае.

*ПАД СТАРШЫНСТВАМ КІРАЎНІКА ПАРЛАМЕНТА МЕЧЫСЛАВА ГРЫБА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Прынята рашэнне склікаць 16-ю сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 27 верасня 1994 года.*

**21 ЛІПЕНЯ ЗВАРУХНУЛАСЯ З МЁРТВАЙ КРОПКІ СПРАВА** па атрыманню грамадзянамі нашай краіны нацыянальных пашпартоў. Уладальнікам дакумента № 1 стаў прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Надпісы на ўнутраных старонках пашпарта на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай.




**НА ЗДЫМКУ:** 27 ліпеня. 11 гадзін раніцы. Шэсце ўдзельнікаў святкавання Дня незалежнасці.

**Фота У. Панады.**


*Збліжэнне дыяспары з беларускім кантынентам пачалося* стар. 2-3

*Мова горкіх дакументаў* стар. 4

*Кожная хата ў жніўні багата* стар.8


# Вучні пішуць пра вайну

***Летась Міністэрства народнай адукацыі сумесна з ТБМ імя Ф.Скарыны абвясціла рэспубліканскі конкурс на лепшае сачыненне да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэму «Наш гонар, наш боль».***

***Шмат вучняў удзельнічала ў гэтым конкурсе. А рэспубліканскаму журы было прапанавана 73 сачыненні, з якіх 22 былі прызнаны лепшымі.***

З сачыненняў дзевяцікласнікаў найлепшае не вылучана. Другое месца аддалі **Святлане Цярлецкай,** вучаніцы 9 класа Красіеўскай базавай школы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці /прозвішча настаўніка не пададзена — надалей гэта заўвага не будзе паўтарацца — З. С./ і **Аляксею Загідуліну,** вучню 9«Г» класа Гарадзенскай школы №18 /настаўніца **Валянціна Мікалаеўна Навіцкая**/. Трэцяе месца — **Святлане Молаш,** вучаніцы Воленскай СШ Івацэвіцкага раёна /настаўніца **Таісія Палікарпаўна Раманюк**/ і **Аляксею Петухову,** вучню 9«Г» класа Шаркаўшчынскай СШ № 1. Журы адзначыла таксама: сачыненне **Наталлі Дзямбіцкай,** вучаніцы 9 класа Радзявіцкай базавай школы Мастоўскага раёна /настаўніца **Галіна Мікалаеўна Коцка**/; сачыненне **Уладзіміра Дзівакова,** вучня 9 класа Пушкоўскай СШ Лёзненскага раёна; сачыненне **Дзмітрыя Мажаева,** вучня 9 класа СШ № 16 г.Віцебска /настаўніца **Л.М. Ісакава**/.

З дзесяцікласнікаў-удзельнікаў конкурсу першае месца аддалі **Марыне Гендрусевай,** вучаніцы 10 «А» класа СШ № 16 г. Бабруйска /настаўніца **Т.З.Кваснова**/. Другое месца **Маргарыце Відзевіч,** вучаніцы 10 класа Ушацкай СШ Віцебскай вобласці, **Алене Сідар,** вучаніцы 10«А» класа Гарадзенскай СШ № 9 /настаўніца **Раіса Іванаўна Тарарака**/; **Таццяне Бабічавай,** вучаніцы 10 «Б» класа Магілёўскага абласнога ліцэя пры МДПІ імя А.А.Куляшова /настаўніца **К.Е.Сазонава**/. Трэцяе месца — **Алене Гушча,** вучаніцы 10 класа Радашковіцкай СШ Маладзечанскага раёна, і **Сяргею Існюку,** вучню 10«Б» класа берасцейскай СШ №16. Журы адзначыла таксама верш «Дарога да абеліскаў» **Таццяны Якімавец,** вучаніцы 10 «А» класа жабінкаўскай СШ № 1 Брэсцкай вобласці, «Баладу пра Фёдара» **Алены Яўгенавай,** вучаніцы 10 «Б» класа Магілёўскага абласнога ліцэя пры МДПІ імя А.А.Куляшова /настаўніца **К.Е.Сазонава** /.

Сярод старэйшых школьнікаў два першыя месцы аддадзены: **Наталлі Засім,** вучаніцы 11 класа Шарашоўскай СШ Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці /настаўніца **Г.М.Грышкевіч**/ і **Алене Палавінкінай,** вучаніцы 11 класа Ціхініцкай СШ Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Два другія месцы атрымалі **Васіль Масла,** вучань 11 класа Павяцкай СШ Міёрскага раёна Віцебскай вобласці /прозвішча настаўніка не пададзена/, і **Дзяніс Сакалоў,** вучань 11 класа менскай СШ № 63 /настаўніца **Р.С.Бацяноўская**/. Трэцяе месца ў **Алены Струй,** вучаніцы 11 «А» класа шаркаўшчынскай СШ № 1. Журы адзначыла таксама сачыненне **Алены Чарнецкай,** вучаніцы 11 класа жабінкаўскай СШ №2 Брэсцкай вобласці, і сачыненне **Аляксандра Ждановіча,** вучня 11 класа Малагарадзішчанскай СШ Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

**Журы асобна адзначыла сачыненне «Жывая сведка» Дзяніса Старавойтава, вучня 5 «Б» класа полацкай СШ № 1.** Ён, як дапісала на сшытку, відаць, яго настаўніца, навучаецца дома, бо хворы на сэрца, але пажадаў удзельнічаць у конкурсе.

*(Заканчэнне на с. 6-7.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ВУЧНІ ПІШУЦЬ

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1)*

*Дзяніс СТАРАВОЙТАЎ*

## ЖЫВАЯ СВЕДКА

***Палову стагоддзя пытанне займае,***
***Ніхто і ніколі пра то не згадае,***
***Навошта забілі хлопца малога?***
***Магілай прывабілі дзеда старога?***
***Чаму сівая жанчына раве?***
***На ганку хлапчына не скача яе.***
***Сведка ахвярам празрыста рачулка***
***Пра гора шапоча смела і гулка.***

Лес убраўся ў лісце, на паплавах зацвілі рознакаляровыя кветкі, на палетках закаласілася добрае жыта. Усюды было так хораша, што, здавалася, усё жыццё сядзеў бы сярод зялёных, духмяных лісцяў і кветак, якія спавіваюць і поле, і поплаў, і лес.

Але так не бывае, каб усё добра было. Калі навокал прыгожа, а сэрца ад шчасця спявае, дык абавязкова бяда ў дзверы грукае. А ў той раз не толькі грукала, дзверы знясла гарачым паветрам вайна.

Крывёй і слязьмі пакацілася яна па краіне. Глухі водгук дакаціўся і да невялічкай вёскі каля магутнай Дзвіны, што цячэ каля Полацка.

Дзень выдаўся хмуры, сонца не паказвалася з самай раніцы. Затое вецер дзьмуў колькі сілаў хапала. Грымела недзе побач. У каго з вяскоўцаў былі коні, тыя пакінулі трывожныя мясціны яшчэ ўчора. У чубатага Юрасіка з маці такога багацця не было. Акрамя таго, у іх быў хворы дзед Антось.

Грымоцце набліжалася разам са слупамі страшнага полымя. На пачатку здавалася: гэта будзе бясконца. Дзед Антось пускаўся на хітрыкі, а потым сур'ёзна казаў: «Алёнка, дачушка, бяры Юрасіка і ўцякайце праз палі ў лес. Мяне пакіньце. Прыйдуць немцы — выратавання нікому не будзе».

Маці схапіла хлопчыка і, колькі было моцы, кінулася наўцёкі. Сэрца яе стагнала ад болю. Дзяліць бацьку і сына было немагчыма. Яна, разгубленая, кідалася то туды, то сюды.

Нарэшце, яны ўсё-такі падаліся наперад. Грымоцце раптам скончылася. Самалёты паварочвалі на ўсход. Толькі адзін чамусьці вярнуўся. Набліжаўся да Юрасіка з маці зусім блізка і пачаў страляць. Праз акно кабіны чуўся рогат: нямецкі лётчык знайшоў жудасны занятак. Яму было цікава паздзекавацца.

Зусім стомленая жанчына прытулілася да вялікага каменя пасярод поля. Перапалоханы і збянтэжаны, Юрасік ірвануў прэч.І зараз жа кулі, нібы жалезныя цвікі, прыбілі да зямлі.

Хлопчык ляжаў нерухома. Зрабіўшы жорсткую расправу, самалёт знік. Спынілася жыццё, якое ледзь-ледзь пачыналася. Ніколі і нікому дзіця не зрабіла дрэннага. На маленькім тварыку засталіся жах і слёзы. Буйныя вочы глядзелі ў неба.

Зусім дагарэла вогнішча. Цішыня раптам аглухнула, толькі ручай, які бег у раку, шапацеў: «Няма? А за што няма? Навошта? Хто адкажа? Ці адкажа? Калі...»

Прайшло пяцьдзесят гадоў. Непадалёку ад Полацка ў роднай вёсцы жыве старая жанчына — жывая сведка здарэння. Болем крычыць душа: «Каму спатрэбілася жыццё яе крывіначкі? Чаму забілі хворага бацьку? Што азначае «знік без весткі?» Ёй дрэнна, але адчуўшы боль не пажадае болю другому».

*НАШ народ можна назваць народам паэтаў. Пацвердзіць такое меркаванне можна найперш багатым зборам ягонага фальклору: ужо выдадзена больш за 50 тамоў акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць», у якіх надрукаваны дзесяткі тысяч паэтычных твораў: ад дзіцячых вершыкаў-лічылак да чарадзейных казак і народнай драмы.*

*Таленавітыя людзі, дзякуй Богу, на Беларусі не звяліся. Гэта даказваюць тыя прыпеўкі, што друкавала і друкуе газета «Звязда». У гэтым пераканаліся і сябры журы рэспубліканскага конкурсу.*

*Якой жа ўяўляюць вайну дзеці народа паэтаў? Як яе, невядомую, успрымаюць?*

*Прыемна было бачыць, што ў творах маладых беларусаў адчуваецца народная, фальклорная аснова ўспрыняцця вайны. Вайна — гэта стыхія, «бяда-гора», як у апавяданні Маргарыты ВІДЗЕВІЧ.*

## БЯДА-ГОРА

Было нясцерпна горача. Агонь шугаў угору, абдаючы людзей сваім пякельным подыхам.

— Ваду, ваду шпарчэй нясіце! Зямлёю закідвайце!

Агонь не змяншаўся, ён здаваўся жывой істотай, якая ў шалёным гневе імгненна глытае пушчаныя ў яе стрэлы — ваду і пясок. У вёсцы гарэла ўжо некалькі хат.

Неслі багры, расцягвалі палаючае бярвенне, выносілі з суседніх дамоў нажытае, лілі ваду на стрэхі яшчэ цэлых дамоў. Мітусіліся, крычалі, плакалі.

Старая бабуля выйшла з абразамі святых, за ёй з хлебам і соллю ў руках пацягнуліся некаторыя жанчыны. Яны шчыра маліліся, абыходзячы здалёк палаючыя дамы.

— Зыдзі, зыдзі ад нас, бяда - гора, у далёкае мора!

І бяда, здавалася, адышла, вецер сціх, у вачах людзей засвяцілася надзея. Мужчыны сядзелі на стрэхах, прымаючы з нізу вёдры з вадою, перакідваючыся моцным словам. У голасе іх чулася ўпэўненасць у тым, што ўсё будзе добра, агонь удасца ўтаймаваць.

— А вунь, гляньце, у лагчыне паштальён бяжыць. Відаць, на дапамогу. Спазніўся ты, браток! Але ж і паперкі прама на хаду з сумкі вымае...

Паштальён нешта пракрычаў здалёк, але з-за трэску затухаючых вогнішчаў і агульнай мітусні немагчыма было разабраць яго словы. Ён бег, спатыкаючыся, нібы моцна п'яны. Было зразумела, што здарылася нешта надзвычайнае. І раптам усе пачулі:

— Вайна пачалася! Вайна! З немцамі!

*Пераможцы конкурсу ведаюць вайну «толькі па кніжках і кінафільмах, ды яшчэ з успамінаў бабулі і дзеда», як заўважыў Аляксей Загідулін. То і самі сведкі той трагедыі ў вачах іх унукаў — героі, якімі нашчадкі ганарацца.*

*З ВЯЛІКАЙ любоўю напісала **Наталля ЗАСІМ** пра родных бабулю Марыю Іосіфаўну і дзядулю Сцяпана Ульянавіча Кандрусікаў:* «Сёння тры дні, як не стала бабулі, майго дарагога чалавека, мудрага сябра, шчырага дарадчыка...

Сёння я перабірала паперы ў бабуліным куфэрку і наткнулася на пісьмо дзядулі, адрасаванае рэдакцыі газеты «Заря», Што ўразіла, дык гэта дата: 1960 год, год смерці. У гэтым аповедзе гаварылася аб тым, што ў партызанах былі людзі розных нацыянальнасцей, але аб'ядноўвала іх адзіная мэта; вярнуць людзям шчаслівае жыццё і мірную зямлю. Яны дзяліліся апошнім акрайчыкам хлеба, дапамагалі адзін аднаму і ніколі не забывалі адзін аднаго. Аднойчы аддзяленню, у якім быў мой дзядуля, далі заданне агледзець мясцовасць каля Драгічына. Камандзірам аддзялення быў Новікаў Міхаіл. Партызаны пайшлі лесам, каб менш быць на вачах у людзей. Але ў гэты час у лесе былі фашысты, якія вылічылі, дзе знаходзяцца партызаны. А тыя ціха ехалі на конях, аглядаючы наваколле, не падазраючы аб небяспецы. Немцы адкрылі агонь. Але білі яны не па людзях, а па конях. Камандзір упаў на зямлю і зламаў руку. Немцы ўбачылі, што партызаны на сваіх нагах, і кінуліся да іх. У гэты час Новікаў устаў ва ўвесь рост і адкрыў агонь з аўтамата, гэтым самым даючы хлопцам магчымасць скрыцца ад немцаў. Але яны не пакінулі камандзіра. Яго адвезлі ў атрад. І доўгі час берaглі яго, як зорку шчасця.

Я доўгі час сядзела над гэтым дарагім майму сэрцу лісточкам, углядаючыся ў словы, напісаныя дрыготкай рукой, і разважала, разважала, разважала... Пэўна, дзядуля хацеў, каб імя камандзіра было хоць нейкім чынам высветлена з шэрага іншых».

*Шмат у якіх сачыненнях ёсць радкі, падобныя на такія:* «Вайна закранула і нашу сям'ю. Не вярнуўся з вайны мой дзядуля, не дажыў усяго некалькі дзён да перамогі. Майму бацьку было тады ўсяго тры месяцы. Ведаючы, што ў яго хтосьці павінен быць, ён у лісце дадому прасіў, каб адбілі руку майго таты на паперы і адаслалі яму. Ці атрымаў ён той ліст? Гэтага мы не ведаем, бо праз два месяцы бабуля атрымала паведамленне: прапаў без вестак. Мы і цяпер не ведаем, дзе ён пахаваны, дзе ляжаць яго костачкі...Не вярнуўся з вайны і родны брат маёй бабулі —Янусь. Стрыечны брат маёй бабулі прайшоў усю вайну...», — так напісаў **Васіль МАСЛА.**

***Святлана МОЛАШ** ганарыцца сваёй бабуляй, якая «праз усе гады пранесла вернасць свайму мужу». Дзяўчынка любіць* «ездзіць у вёску да бабулі...І з якога боку ні заедзеш у вёску, адразу убачыш старую ліпу, высокую, разгалістую». *На гэтай ліпе немцы павесілі яе прадзеда — партызанскага сувязнога Рыгора Іванавіча Шыяна, якому тады было толькі 28 гадоў.*

*З РАДАСЦЮ чытаю сачыненні, у якіх вучні спрабуюць зразумець сваіх родных і стараюцца дапамагчы ім.* «Чым старэйшым я станаўлюся, — піша **Дзяніс САКАЛОЎ,** — тым больш мне хочацца ведаць пра маіх продкаў. Усё часцей у думках я звяртаюся да лёсу дзядулі Ананьева Паўла Фёдаравіча...

Сёння мы з дзядулем працуем у садзе. У яго няма настрою; баляць зубы, і, як кажа дзед, усё адразу.

— Чаму, дзед, летам — зубы?

— Мае зубы не выбіраюць пару года...

Усё пачалося з вайны, калі я, зусім малады — дваццаць год было — трапіў у палон. На Украіне, каля невялікага горада Белая Царква. Ведаеш, выгляне сонца, і мы ўсе ляжым мёртвыя. А калі яно схаваецца, мы, паміраючы ад смагі, поўзаючы на жываце, шукалі знаёмых. Так я знайшоў свайго камандзіра. «Ананьеў, ці ёсць у цябе бурачны ліст?» — спытаў ён. І я адарваў кавалачак гэтага самага ліста, які быў снеданнем, абедам і вячэрай. Гэтыя лісты некаторым палонным удалося ўхапіць на полі, калі немцы гналі нас у вялікі катлаван.

Вось так, Дзяніс, сорак дзён такой яды без солі і вады. Ды і не толькі гэта...

Я толькі назіраю і дзіўлюся: так спрытна ўсё ў дзядулі атрымліваецца. Гляджу на яго, а перад вачыма катлаван на Украіне, запоўнены чалавечымі целамі — жывымі і мёртвымі. Я чуў аб гэтым і раней ад маці, але ўразіла ўсё гэта мяне так глыбока ў першы раз.

Праз некалькі гадзін, даволі стаміўшыся, ідзём дахаты. Я п'ю малако з мёдам. Дзядуля глядзіць на мяне, усміхаецца: ён рады, што мне падабаецца мёд з малаком.

— Дзед, а ты будзеш есці? — пытаюся я.

— Не. Вось каб усё гэта мне тады, калі маладзейшы быў ды ляцеў цераз галовы другіх, рызыкуючы загінуць, у вялікі кацёл з кашай... Гэта ўсё там, у палоне.

— А кашы схапіў?

— Схапіў, ды ледзь не застаўся ў гэтым катле назаўсёды.

У гэтае лета дзед адкрыўся мне з нейкага іншага боку, хоць здавалася, што я яго добра ведаю. Яго знаёмая ўсмешка цяпер мела для мяне нейкі загадкавы сэнс. Паходка, жарты, жаданне памаўчаць. Які ж ён цікавы, разумны і мужны чалавек! Ведаў я і тое, што ў дзеда няма ніякіх узнагарод і нават удзельнікам вайны ён не лічыцца...

— Дзед, а чаму да цябе не праводзяць тэлефон? Вунь ужо колькі іх на нашай вуліцы.

Ён зноў усміхаецца сваёй таямнічай усмешкай.

— Не заслужыў. Я амаль увесь пасляваенны час ледзь не здраднікам быў. Палонны. Ведаеш, калі нас вызвалілі з палону, то трое сутак трымалі каля сцяны пад дулам вінтоўкі. Свае.

Скажы ім, як здаліся ў палон, і кропка. Але ж не здаваліся мы. Нас бяззбройных забралі...

...Калі мы з маці прыехалі ў Мінск, то адразу адправілі пісьмовы запыт у архіў. Там, мабыць, знойдзецца ў спісах партызан прозвішча дзеда. Па яго словах, ён быў у партызанах пасля вызвалення з палону з чэрвеня 1942 па снежань 1943 года. Колькі было радасці, калі праз дваццаць дзён прыйшоў адказ, што Ананьеў Павел Фёдаравіч, 1921 года нараджэння, лічыцца ў спісах без весткі прапаўшых партызанскага атрада № 1/камандзір В.П.Воранаў/, які дзейнічаў у Шчалбоўскіх лясах на Віцебшчыне.

Вось яна, праўда!

Мы хуценька заказным пісьмом адправілі да дзеда гэту вестку і пачалі з нецярпеннем чакаць адказу. І дачакаліся.

— Не, — сказалі ў выканкаме горада Гарадка. — Патрэбны яшчэ мінімум тры сведкі.

Дзе ж іх узяць, калі ўжо ў гэтым годзе святкуецца 50-годдзе з Дня Перамогі?

Няўжо, дзед, і мы не памаглі знайсці табе праўду? Мусіць, як скончу універсітэт /мару быць юрыстам/, я дапамагу табе. Але ж ці патрэбна яна табе тады будзе, дзед, гэтая праўда...

*ЗАШЧЫМЕЛА сэрца, калі чытаў сачыненне **Алены ПАЛАВІНКІНАЙ.** Яна апавядае пра лёс чужога чалавека, але адчуваецца, што дзяўчыне чужое гора нібы сваё* «... перастала біцца сэрца Аўдулі... Хавалі яе ўсёй вёскай: хто прынёс гарэлкі, хто закуску мужчыны зрабілі дамавіну. За жалобным, памінальным сталом гаварылі толькі добрае пра жанчыну-маці, якая не дачакалася з вайны сваіх сыноў. А было ў яе іх трое: высокіх, прыгожых, моцных. «Пайшлі па маці»,— гаварылі ў вёсцы, бо бацька іх Сцяпан быў невысокага росту, але дужы...

Трох адразу праводзіла Аўдуля на страшэнную сечу, бо нараджаліся яны адзін за другім праз год...

З таго дня знікла ўсмешка з твару Аўдулі. Сэрца прадчувала, што ў апошні раз туліла да грудзей сваіх любых сыноў. Так яно і здарылася: атрымала на кожнага пахавальную... Ніхто не бачыў слёз Аўдулі. Адны гаварылі, што сэрца ў яе каменнае, другія —зацялася. Не ведалі толькі, што слёзы ў яе выліліся ў той чорны дзень 29 чэрвеня 1941 года, а апошнія — калі хавалі мужа-партызана зімой 1943-га.

Нікому не скардзілася на свой лёс, жыла, як магла, бо ведала: не адна яна такая. Толькі працавала больш, чым хто, не ведала заспакаення ў працы. На вёсцы дзівіліся: «Навошта так працаваць — адной жа шмат не трэба». Толькі не хацела Аўдуля мець шмат вольнага часу: так лягчэй было глушыць душэўны боль...»

*Простыя словы падабрала Алена Палавінкіна, каб перадаць «размову» маці з сынамі:*

« — Валодзечка, Пецечка, Лёшанька! Чуеце вы мяне? Гэта я , ваша матуля. Калі ж мы сустрэнемся, кравіначкі вы мае? Дзетачкі, як жа мне цяжка без вас. Ці добра вам там у зямельцы? Можа сцюдзёна? Памятаеце, як я папраўляла коўдры на вас зімовымі вечарамі? Ты, Лёшачка, часцей сваволіў, скінеш коўдрачку і чакаеш, калі я прыйду, а потым прытулішся да мяне і ляжыш ціхенька. Нічога табе болей не тэба. Цёпленька ля матулі. Яна прагоніць усіх злых духаў. Калі ж ты мяне сагрэеш, сыночак? Я ўжо спрацавалася, хачу на пакой. Дзетачкі, любыя, вазьміце мяне да сябе. Не магу я ўжо кожную ноч за вёску хадзіць, вас чакаць. Няма ўжо і тых бяроз, дзе мы развіталіся, а я ўсё жыву. Вы ж усё не ідзяце. Прыйдзіце, дзіцяткі, я вам вячэру зраблю, сядзем, як раней, усе за стол. Вы будзеце есці, а я —падносіць вам ежу і любавацца, як раней...

Аднойчы папрасіла Аўдуля суседа вытапіць баню. Памылася, прыбралася ў кужэльнае, даматканае і папярэдзіла суседку, што сёння ноччу памрэ, каб раніцай прыйшлі да яе, каб доўга не ляжала на лаўцы і пахавалі ў той жа дзень, а курэй хай сабе забярэ: не дзічэць жа ім.

Суседка сумелася:

— Што ты гаворыш, Аўдуля. Гаварыць такое перад ноччу — грэх.

— Ведаю, што грэх. Але прыходзілі да мяне мінулай ноччу сыны з гаспадаром і сказалі, што сёння прыйдуць за мной, каб я была гатова і згатавала вячэру. Дзякуй Богу, дачакалася. Час ужо з імі быць заўсёды разам. Не счакаю я той хвіліны. Затрымалася я тут. Хай прабачаць, калі што зрабіла не так.

А дзевятай гадзіне вечара закурэў дым з коміна Аўдулінай хаты.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



СПОРТ

# АМЕРЫКАНЦЫ ЗНОЎ ЗДЗІВІЛІ

Як і што было на чэмпіянаце свету па футболу, які на гэты раз праходзіў у ЗША, нашы чытачы, якія цікавяцца спортам, добра ведаюць па тэлевізійных перадачах і падрабязных рэпартажах у спартыўных калонках вялікіх газет: Кубак у чацвёрты раз заслужана ўручаны камандзе Бразіліі, што стала для гэтай краіны прычынай агульнанацыянальнага свята, нават указам прэзідэнта дзеля гэтай мэты абвешчаны выхадны дзень, вялікай футбольнай Расіі даводзіцца радавацца, што нехта ўсё ж пераможаны, няхай сабе і камерунцы. Ну а нам... Мы парадуемся за іншых і разам з усімі каторы раз падзівімся амерыканскім цудам.

Хоць усе гэта прадбачылі, але ж тым не менш здзіўлены, што амерыканцы атрымалі ад правядзення чэмпіянату звыш 20 мільёнаў прыбытку. То ўспомнім, як некалі ў СССР на правядзенне Алімпіяды ўмудрыліся пусціць амаль ці не гадавы прыбытак вялізнай краіны. Прычым зробленыя мільёны амерыканцы плануюць выдаткаваць на развіццё зноў-такі футболу. Але не элітарнага, а ў першую чаргу — масавага — асабліва дзіцячага і юнацкага.

А яшчэ здзіўленне еўрапейцаў выклікаюць паводзіны практычных амерыканцаў. Здавалася, янкі без долара ва ўзнагароду і кроку не зробяць, а на справе тут аказалася маса людзей, якія добраахвотна дапамагалі арганізатарам чэмпіянату. Знакаміты ў футбольным асяродку француз італьянскага паходжання Мішэль Плаціні з захапленнем і зайздрасцю адзначыў, як развіты ў ЗША рух добраахвотнікаў-валанцёраў. Для любой добрай справы, заўважыў Плаціні, ці будзе гэта дапамога некаму, ці камунальнае жыццё, ці ўрэшце гонар краіны — заўсёды ў ЗША знаходзіцца дастатковая колькасць дзіўных, з еўрапейскага пункту гледжання, мужчын і жанчын, якія афяруюць свой уласны час, а то і свае грошы. «Не ўпэўнены, што мы ў Францыі, —заўважыў з іроніяй Плаціні, — знойдзем гэткую ж колькасць добраахвотнікаў, нават калі будзем плаціць кожнаму па пяць долараў». А арганізатары Кубка свету ў ЗША змаглі тым часам знайсці сабе ў дапамогу 100 тысяч добраахвотнікаў. І тут амерыканскія маштабы.

**Ул.Ас.**

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

Апошні месяц лета, аб якім прыказка кажа: «Кожная хата ў жніўні багата». На яго прыпадаюць значныя святы народнага календара, што пазней аб'ядналіся з рэлігійнымі — *Ілля, Спас, Прачыстая.* Адзначаюцца абрады зажынак і дажынак. Цікавая прыродная з'ява ў жніўні — ***Рабінавыя** ночы* (цягнуцца ад Іллі да Малой Прачыстай).

## ЖНІВЕНЬ

**1** (панядзелак). **Пр.** *Макрына (Макрэня, Макрыдка)* — прысвятак, па якім меркавалі аб надвор'і на бліжэйшы час. Дождж на Макрыну прадракаў непагадзь «на ўсю Спасаўку». Сухое надвор'е ў гэты дзень — на сухую восень («Глядзі восень па Макрыне»).

**Ун.** *Працэсія Пачэснага Крыжа.* Пачатак Успенскага посту, які працягваецца 15 дзён. Блаславенне вады.

**2** (аўторак). **Пр.** *Ілля (Галляш).* **Свята** ў гонар старазаветнага прарока, які жыў нібыта за дзесяць стагоддзяў да нараджэння Хрыста, праводзіў жыццё ў посце і малітвах, тварыў цуды і жывым узнёсся ў неба на вогненнай калясніцы. Вобраз Іллі з цягам часу трансфармаваўся ў язычніцкага бога грому і маланкі — Перуна, а затым у асілка Іллю. Моляцца Іллі з нагоды непагадзі або засухі. *Прыказкі і прыкметы:* «Ілля нарабіў гнілля», «Прыйшоў Пятрок, апаў лісток, прыйшоў Ілля — апала два», «Да Іллі на сене пуд мёду, а па Іллі пуд гною», «Калі на Іллю паспелі чарніцы, паспела і жыта». Добрае надвор'е на Іллю — да сухой восені і пажараў у лесе.

**4** (чацвер). **Пр.** *Міраносіца Марыя Магдалена.* Прысвятак.

**6** (субота). **Пр.** *Святыя Барыс і Глеб.* У гэты дзень не працавалі («Барыс і Глеб — паспеў хлеб»).

**Ун.** *Перамяненне (Ператварэнне) Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста.* Паводле Святога пісання ў час малітвы Хрыста на гары Фавор яго вопратка стала белай і зіхатлівай, а вакол галавы ўзнікла ззянне.

**7** (нядзеля). **Пр.** *Сабор Смаленскіх святых. Успенне Ганны, маці Прасвятой Багародзіцы* («Барыс з Ганкай не гуляюць, святому Іллі памагаюць»). Халодная раніца на Ганну — да халоднай зімы.

**10** (серада). **Пр.** *Дзень Смаленскай Іконы Божае Маці.*

**Кат.** *Лаўрын* (Ваўжынец) — прысвятак млынароў, дзень, у які малолася мука з новага ўраджаю («На Лаўрына спяшай да млына»).

**11** (чацвер). **Пр.** *Калінаў дзень* (імяніны Калініка). Сеялі жыта, плялі вянкі.

**12** (пятніца). **Пр.** *Сіла (Іван).* Дзень прысвячаецца некалькім апосталам («Хто на Сілу жыта сее, у таго на хлеб надзея»).

**13** (субота). **Пр.** *Загавенне на Успенскі пост (Спасаўскія запускі).*

**14** (нядзеля). **Пр.** *Вынясенне дрэва Слаўнага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга. Дзень сямі пакутнікаў Макавеяў.* Пачатак Успенскага посту (Спасаўка). Бортнікі падглядваюць пчолы, у храмах асвячаецца мак і гароднiна.

Абрад вынасу Крыжа з храма і пакланенне Крыжу быў прыняты ў Канстанцінопалі. Гэта рабілася для асвячэння месцаў і прадухілення хвароб.

Першы Спас — провады лета. Людзі кажуць: «Спасаўка —ласаўка», «Спас — халодныя росы». Прыкметы: дождж на Макавеяў — да ўраджаю грыбоў; сухое надвор'е — да пажараў.

**15** (панядзелак). **Кат., ун.** *Успенне (Унебаўзяцце) Найсвяцейшай Багародзіцы.* Народная назва свята — *Прачыстая, Зельная, Першы святок.* Асвячаюцца ў храмах травы і зёлкі («Прыйшла Прачыстая — стала поле чыстае»).

**16** (аўторак). **Пр.** *Дзень Антонія Рымляніна,* ноўгарадскага цудатворца. Народная назва *Антон-віхравей.* У гэты дзень часта бываюць навальніцы і моцныя вятры («Якія Антоны, такі і кастрычнік»).

**Кат.** *Святы Рох, апякун Менска.* Даўней на гэты «святок» адбываўся своеасаблівы кірмаш паненак, на якім бацькі рабілі змовіны.

**19** (пятніца). **Пр.** *Ператварэнне (Перамяненне) Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста.* Народная назва — *Вялікі Спас, Спас яблычны.* Асвячаецца садавіна, пасля чаго можна есці яблыкі.

**21** (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля Аўрама Смаленскага.*

**22** (панядзелак). **Пр.** *Мацвей* («Пасля Мацвея мужык на полі не пацее»).

**23** (панядзелак). **Пр.** *Лаўрын.* З прысвяткам звязана прыкмета: спакойная апоўдні вада ў рацэ абяцае пагодлівую восень і зіму.

**24** (серада). **Кат.** *Баўтрамей* («Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей»).

**25** (серада). **Ун.** *Перанясенне мошчаў святога Баўтрамея. Спасаўскія дзяды.* Адзначаюцца ў пятніцу і суботу перад Успеннем.

**27** (субота). **Пр.** *Міхей.* Прыкмета: моцны вецер на Міхея — да дажджлівай восені.

**28** (нядзеля). **Пр.** *Успенне Прасвятой Багародзіцы (Унебаўзяцце).* Народная назва — *Прачыстая, Першая Прачыстая, Вялікая Прачыстая, Спажа, Зельная — у адрозненне ад Другой, Малой Прачыстай,* вядомай пад назвай «Багач» («Спажа — хлеба дзяжа», «Успенне, ці гатова насенне?»).

**29** (панядзелак). **Пр.** *Трэці Спас або Малы Спас, Спас Жытні.* У многіх мясцінах спраўляюць дажынкі, а ў полі выконваюць абрад «завівання барады». «Бараду» робяць са жменькі нязжатых каласоў і пакідаюць зімаваць, каб вяліся зерневыя духі, якія спрыяюць добраму ўраджаю.

Асвячаецца зерне для засевак («Трэці Спас хлеба прыпас», «Па Трэцім Спасе трымай рукавіцы ў запасе»).

**Ун.** *Адсячэнне галавы Яна Хрысціцеля.*

**31** (серада). **Пр.** *Фрол і Лаўр.* У землеробаў — «конскае свята». Посны дзень. Забаранялася працаваць у полі і запрагаць коней для работы.

**Крыніцы:** А.Лозка «Беларускі народны каляндар». Мн., 1993; А.Надсан «Беларускі царкоўны каляндар» (грэка-каталіцкай, уніяцкай царквы). Лондан, 1994; Беларускі праваслаўны каляндар. Мн., 1994, складальнікі Л.Качанка і інш.

**І.К.**

**Управа Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, рэдкалегія часопіса «Хрысціянская думка» выказваюць глыбокае спачуванне сябру Управы, намесніку старшыні БХДЗ, намесніку рэдактара «Хрысціянскай думкі», дырэктару літаратурнага музея Максіма Багдановіча спадару Алесю БЯЛЯЦКАМУ з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.**

## ШКОЛА САМААБАРОНЫ

***М.КАЧАР,***
***інструктар рукапашнага бою,***
***сябра Беларускай асацыяцыі самаабароны.***

Сёння мы назіраем сапраўдны ўсплёск цікавасці да баявога майстэрства. Гэта, безумоўна, знаходзіцца ў прамой сувязі з ашаламляльным ростам злачыннасці, нейкай усеагульнай бязлітаснасці людзей, іх няўпэненасцю ў заўтрашнім дні. Асабліва страшыць тое, што любы чалавек, у любым месцы можа стаць ахвярай злачынцаў. А спадзявацца няма на каго, акрамя сябе: «Выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў» — так атрымліваецца. І тут узнікаюць справядлівыя пытанні. У якой меры баявыя прыёмы могуць гарантаваць сваім прыхільнікам асабістую бяспеку ў сучасных каменных джунглях?

Раней чым даць на гэта адказ, неабходна ўсвядоміць, што сапраўднае майстэрства, якое толькі і можа гарантаваць перамогу, фармуецца многімі гадамі цяжкай працы. Напрыклад, каб выхаваць майстра вольнай барацьбы ці дзюдо, трэнеру патрабуецца ў сярэднім каля сямі гадоў. У нашай сістэме, якая базіруецца на прынцыпе «мінімум складанасці і максімум эфектыўнасці», гэты тэрмін крыху меншы. Пры пэўных умовах першых вынікаў можна дасягнуць ужо праз год заняткаў. Большасць прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў адзінаборстве, можна правільна засвоіць і ператварыць ў навыкі толькі пры належным развіцці фізічных якасцей: спрытнасці, сілы і хуткасці. Дзеля гэтага для заняткаў патрэбна мэтанакіравана выкарыстоўваць не менш дзвюх гадзін у дзень. Прапаную рабіць гэта ў два прыёмы.

Першы трэнінг — з самай раніцы, перад працай ці вучобай, на працягу 30—50 хвілін. Ён уключае ў сябе ў асноўным бег і гімнастыку. Трэніроўкі можна арганізоўваць па наступнаму графіку.

Панядзелак. Першае — «паласа з перашкодамі». У вайсковых часцях праблемы з гэтым няма, а ў гарадскіх умовах можна рабіць такія практыкаванні, як кароткія прабегі з паскарэннем, чаўночны бег, падскокі на кукішках, хуткія адціскання на руках ад зямлі, скокі ў даўжыню, пераадольванне натуральных перашкод. Усе гэтыя практыкаванні чаргуюцца з бегам на адлегласць каля 400 м. Другое — гімнастыка. Гэта практыкаванні на турніку: розныя завісы, падцягванні, пад'ёмы пераваротам, «склёпкі» і г.д. Трэцяе — бег на 1 км.

Аўторак. Першае — бег з прыспешаннем на 60—100 м (некалькі разоў). Другое — бег на 3 км.

Серада. Бег на 6—10 км. У чацвер, пятніцу, суботу паўтараць практыкаванні панядзелка, аўторка, серады. Прычым не трэба спяшацца, спрабаваць, напрыклад, бегчы адразу 10 км. Сачыце за сваім станам. Пачынаць можна ўвогуле не з бегу, а з хадзьбы.

Далей — вячэрнія трэніроўкі. Я прапаноўваю чаргаваць праз дзень заняткі па рукапашнаму бою з заняткамі сілавымі практыкаваннямі. Напрыклад, са штангай і на турніку, трэніроўка грудзей уздымам штангі, лежачы на пахіленай дошцы. Трэніроўка спіны — падцягванне на турніку з шырокім захопам, падцягваннем з сярэднім захопам, але ж так, каб дакранулася перакладзіны не падбародкам, а грудзямі. Цягліцы плячэй — уздым штангі з-за галавы з вузкім захопам. Цягліцы рук — пад'ём штангі на біцэпс стоячы з вузкім захопам і адціскання яе ад грудзей, лежачы на гарызантальнай дошцы. Вага штангі павінна быць такой, каб можна было падымаць 8-12 разоў па тры-чатыры падыходы. Цягліцы прэса — згібанні тулава на нахіленай дошцы «галава да ног» і «ногі да галавы». Тры-чатыры падыходы на максімум паўтарэнняў.

Тут трэба памятаць, што мае рэкамендацыі не з'яўляюцца догмай. У час заняткаў чым больш чалавек імправізуе, шукае сваіх падыходаў — тым лепш.

(Працяг у № 32.)

ПАРОДЫІ

*Янусь МАЛЕЦ*

## Пагоня за вершам

*Галоўны верш мой, за табой вятры*
*Нясуць мяне па ўсіх дарогах свету.*
*І ўсё часцей мне верыцца, што ты*
*І сам спяшаеш на сустрэчу гэту.*
Марыя ШАЎЧОНАК.

Аднойчы вечарам дамоў прыйшла,
І тут мяне віхура падхапіла,
Шпурляла злосна ля пісьмовага стала,
А потым па дварышчы закруціла.
Трымцела сэрца: «Недзе блізка верш,
Той верш, што называецца галоўным,
З якім да зор парнаскіх паплывеш,
Акрылена, высока і духоўна».
Затым мяне ўстрывожылі вятры:
«Твой верш мы бачылі ў далёкіх Альпах!»
Агонь успыхнуў радасны ўнутры,
І кроў запульсавала цёпла ў пальцах.
У дзіўных Альпах верша не было.
Сказалі, што на Кубу ён падаўся.
І закруціла зноўку, панясло,
Аж лоб ад хуткіх думак награваўся.
А з Кубы на экватар, як страла,
З вятрамі задуменна я злятала.
Там хваля мне марская прагула:
«А я ж яго на Кубу пасылала!»
Японія, Аляска, КНР,
Цянь-Шань, Урал, Карпаты, Гімалаі...
Галоўны верш... Дзе ён цяпер?
А можа, ад мяне ён уцякае?

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 31

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 59?? паасобнікі.
Падпісана ў друк 11.07.1994 г. у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013